адна зямля
МЯДЗЕЛ
АСТРАВЕЦ
СМАРГОНЬ
ВІЛЕЙКА
АШМЯНЫ
МАЛАДЗЕЧНА
ВАЛОЖЫН
МІНСК

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

31 жніўня 2001 года
№ 35 (332)
Выходзіць па пятніцах

ТУ ПЛЮС

## Навіны рэгіёна

### Сустракайцеся з кандыдатамі

**МАЛАДЗЕЧНА.** Гарвыканком сваім рашэннем зацвердзіў памяшканні пад сустрэчы кандыдатаў у прэзідэнты з выбаршчыкамі. Гэта Дом культуры чыгуначнікаў, драмтэатр і цэнтральная гарадская бібліятэка.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Міліцыя адабрала... пікеты

**АШМЯНЫ.** 29 жніўня затрымалі **Пятра Явідовіча**, кіраўніка ініцыятыўнай групы кандыдата ў прэзідэнты **Уладзіміра Ганчарыка**. Члены ініцыятыўнай групы ўстанавілі пераносны інфармацыйны стэнд каля гарадскога ўнівермага і на працягу трох гадзін раздавалі буклеты кандыдата. Работнікі міліцыі пад'ехалі на дзяжурным "уазіку" і загрузілі стэнд. Пятра Явідовіча яны запрасілі наведаць мясцовы РАУС, дзе склалі акт адабрання "... пікета на карысць кандыдатаў у прэзідэнты...".

**Дзмітрый КАЛЯДА.**

### Усеагульная 10-бальная сістэма

**МАЛАДЗЕЧНА.** З 1 верасня ўсе школы раёна пераходзяць на 10-бальную сістэму адзнак.

Раней у выглядзе эксперыменту такая сістэма адзнак дзейнічала ў Радашковіцкай і Чысцінскай школах. У апошняй чвэрці многія школы раёна паралельна выкарыстоўвалі 5- і 10-бальную сістэмы. Загадчык аддзела адукацыі райвыканкома **Вацлаў Рушлевіч** гаворыць, што ў гэтых школах знізілася доля нездавальняючых адзнак.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Тэлефанізацыя раёна

**МАЛАДЗЕЧНА.** На наступны год плануецца расшырыць АТС у Радашковічах (на 500 нумароў) і Аляхновічах (на 700 нумароў). У Гарадку АТС перанясуць у новае памяшканне і адначасова расшыраць.

Начальнік раённага вузла электрасувязі **Леанід Валатовіч** спадзяецца, што сёлета да Радашковічаў давядуць і падключаць оптыка-валаконную лінію.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Клас студэнтаў

**МЯДЗЕЛ.** З 20 выпускнікоў профільнага фізіка-матэматычнага класа першай школы горада студэнтамі сталі 17.

Фізіку ў гэтым класе выкладала **Тамара Літвіновіч**, а матэматыку – **Таццяна Казельская**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Алена Атрашкевіч на тэлебачанні

**МАЛАДЗЕЧНА.** У сакавіку ў рамках IV Рэспубліканскага фестывалю беларускай дзіцячай песні "Спяваем з аркестрам" прайшла вечарына, прысвечаная творчасці кампазітаркі **Алены Атрашкевіч**. Удзел бралі выхаванцы кампазітаркі, яе сябры, зоркі беларускай эстрады. Было і выступленне саліста Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам М. Фінберга **Дзмітрыя Качароўскага** (гран-пры «Маладзечна-2001» і першае месца на "Славянскім базары").

Маладзечанская кампазітарка ў сааўтарстве з **Наталляй Танюкевіч** напісала спецыяльна для Дзмітрыя Качароўскага лірычную песню. У дзень перамогі на фестывалі «Маладзечна-2001» перад канцэртам ён атрымаў ад Алены Атрашкевіч у падарунак песню, а ўвечары ад горада – аўтамабіль.

Глядзіце ў нядзелю, 2 верасня, перадачу, прысвечаную творчасці Алены Атрашкевіч, – 10-55 "Спяваем з аркестрам".

**Наталля ХАРЫТОНАВА.**

### Надвор'е на выхадныя

Субота, 1верасня

**Мінск**
**6 – 8°С** (уначы)
**16 – 18°С** (удзень)

**Вільня**
**9°С** (уначы)
**20°С** (удзень)

Нядзеля, 2 верасня

**Мінск**
**9 – 10°С** (уначы)
**19 – 20°С** (удзень)

**Вільня**
**11°С** (уначы)
**23°С** (удзень)

## Уладзімір Ганчарык у Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак горад наведаў кандыдат на пасаду прэзідэнта Уладзімір Ганчарык.**

Сустрэча кандыдата з жыхарамі горада прайшла на круглай пляцоўцы гарадскога парку. У. Ганчарык расказаў пра сябе, прывёў асноўныя тэзісы праграмы, адказаў на запіскі.

Вось што ён адказаў на пытанні «Рэгіянальнай газеты».

**– Чаму вы вырашылі ісці на выбары?**

– Зразумела, каб перамагчы.

**– Пра вашыя ўзаемаадносіны з Сямёнам Домашам. Што стала вырашальным аргументам на вашу карысць, калі вызначаліся з адзіным кандыдатам?**

– У нас з Домашам нармальныя стасункі. Ён пойдзе на выбары другім нумарам. Сёння ён таксама прыехаў бы ў Маладзечна, але, на жаль, прыхварэў. Наконт выбараў адзіным кандыдатам мяне, скажу: павінен быць нехта адзіны.

**– Чаму менавіта вы?**

– Абралі мяне. Так атрымалася. Калі б Ярашук набраў 100 тысяч подпісаў, можа, абралі б адзіным яго. Я хачу папрасіць прыхільнікаў Сямёна Домаша папрацаваць на маю перамогу.

**– Які будзе ваш першы ўказ, калі выйграеце выбары?**

У мяне падрыхтаваныя ўказы аб падтрымцы ветэранаў, настаўнікаў, урачоў, работнікаў культуры. Адмяню ўказы, што тармозяць развіццё эканомікі. Але абяцаю: у першыя 100 дзён рэабілітую ўсіх незаконна асуджаных.

Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.

На круглай пляцоўцы маладзечанскага гарпарку сабралася шмат гараджанаў. Кандыдата ў прэзідэнты слухалі ўважліва прадстаўнікі розных пакаленняў.

**– Ваш першы замежны візіт у якасці прэзідэнта?**

– Спачатку трэба выйграць выбары. Я чуў, што мяне чакаюць у Крыме, у некаторых краінах.

**– Ці будзеце пераглядаць прынцыпы інтэграцыі з Расіяй? Я маю на ўвазе Саюзную дзяржаву.**

– Я за захаванне суверэнітэту Беларусі. Разам з Расіяй у Еўропу, у еўрапейскія структуры! Калі расіяне захочуць уключыць нас у сваю дзяржаву, то нам з імі не па дарозе.

**– Ці дазволіце выкарыстоўваць адзіным плацежным сродкам расійскі рубель?**

– Адзіным плацежным сродкам у Беларусі будзе беларускі рубель.

**– Што скажаце выбаршчыкам, якія яшчэ не вызначыліся?**

– Папрашу іх хутчэй вызначыцца са сваім выбарам. І прагаласаваць менавіта 9 верасня, але не датэрмінова.

**– Чым ваша перадвыбарная праграма лепшая за іншыя? У адказе нельга выкарыстоўваць крытыку.**

– А вы самі параўнайце і паглядзіце.

**– Ці валодаеце вы замежнымі мовамі?**

– Я разумею англійскую мову.

Уладзімір Ганчарык.

**Пытанні пра армію:**

планe скараціць тэрмін службы ў войску і зрабіць яе прафесійнай;

**пенсію:**

пенсійны ўзрост не павялічыцца. Пенсія будзе накапляльная, яе памер будзе залежаць ад зарплаты на працягу жыцця. У выпадку смерці пенсіянера астатнія грошы могуць атрымаць дзеці;

**БПСМ:**

«патрыёты» будуць дзейнічаць, як звычайная грамадская арганізацыя, дзяржаўных грошай не атрымаюць;

**выбары і БТ:**

калі выбары будуць сумленныя, пасля іх БТ стане іншае. Натуральна, Зімоўскі там працаваць не будзе.

**Юрый КАРПІЦКІ.**
**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

**ВІЛЕЙКА.** Пасля Маладзечна У. Ганчарыка прыхільна сустрэлі ў суседняй Вілейцы. Зала паседжанняў ДК, дзе прайшла сустрэча з выбаршчыкамі, была запоўненая цалкам задоўга да пачатку.

**Аляксандр НАРКЕВІЧ.**

### Экспрэс-апытанне маладзечанцаў

## «Каму б вы паставілі помнік у горадзе?

**Любоў Камалава, тэхнолаг:**

– Я не ставіла б, здаецца, помнік нікому. Гэта варта заслужыць. Хаця, Ермаловічу, прыкладам, можна паставіць помнік. А наогул, калі адзначаць, то, напэўна, літаратараў. Гэта больш нейтральна, чым палітыка ці ваеннага.

**Святлана Саўчанка, культработнік:**

– Мне цяжка адказаць, я тут толькі чацверты год жыву, бо пераехала з Веткаўскага раёна. Напэўна, Агінскаму, чыё жыццё звязанае з гэтымі мясцінамі. А наогул, помнікі патрэбныя. Прыгожыя, яны аздабляюць горад.

**Лера Кічыгіна, 2-класніца САШМ:**

– Не ведаю. Мусіць, якому-небудзь дзядзьку, які зрабіў шмат вельмі добрага. А наогул, помнікі памерлым ставяць.

**Яўген Сакалоў, прадпрымальнік:**

– Зрэшты, я супраць помнікаў. Яны падмяняюць людзей, засцяць іх. Экзюперы некалі гаварыў, што людзей трэба шанаваць пры жыцці. Нельга не згадзіцца.

**Сяргей Плыгуноў, інжынер:**

– Агінскаму. Жыццё гэтага дыпламата, кампазітара цесна звязанае з Маладзечнам. Магчыма, Карпенку. У яго гонар, у крайнім выпадку, вуліцу можна назваць. Усё ж такі гэты чалавек шмат зрабіў для горада – папрыгажэлі вуліцы, стадыён, фестывалі пры ім нарадзіліся. А па вялікім рахунку, помнік трэба ставіць шматпакутнаму беларускаму народу. Але гэта ўжо не толькі ў Маладзечне, зразумела.

**Фотаапытанне падрыхтаваў Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**

■ ШКОЛА

# Люстэрка для настаўніка

**Школа, па азначэнні, павінна стаць для дзяцей утульным домам.**

І клімат у ім, найбольш, залежыць ад гаспадароў-настаўнікаў. Не рэдкасць, на жаль, сярод іх тыя, каму цяжка зразумець вучня, увайсці ў яго становішча, тым болей, прыняць пункт погляду маладога чалавека. Напярэдадні новага навучальнага года сумесна з гараддзелам адукацыі мы правялі невялічкае даследаванне.

Сярод 30 апытаных бацькоў большая частка (22) задаволена стаўленнем да іх дзяцей з боку настаўнікаў, класных кіраўнікоў. Астатнія 8 такой згодай пахваліцца не могуць. Выклікае непаразуменне ўмоўнае дзяленне класа некаторымі настаўнікамі на катэгорыі "любімчыкаў" і "нелюбімчыкаў". Скардзяцца на такую няроўнасць, зразумела, бацькі, чые дзеці трапілі ў лагер "нелюбімчыкаў". Калі яго прадстаўнік нават добра рыхтуецца да заняткаў, але не карыстаецца сімпатыяй з боку "другой маці", ён не можа атрымаць "выдатна". Іншаму дастаткова пранізліва "стрэльнуць вочкамі", усміхнуцца ў патрэбны момант, падыграць колькімі словамі, неабавязкова ў такт, – і добрая адзнака ўжо "красуецца на старонцы дзённіка.

Хвалюе тат і мам адсутнасць належнай увагі да людзей за партамі (20 чалавек), няздольнасць зацікавіць маладога шукальніка ведаў (11), прывіць яму любоў да кнігі, да сшытка і ручкі, сфарміраваць ўседлівасць.

Скардзяцца клапатлівыя бацькі на нявытрыманасць настаўнікаў (7 апытаных), звязаную з павышэннем голасу на "ягнятаў" за сталамі. Школа – не пляц, а настаўнік не камандзір роты, і крыкам у выхаванні маладога пакалення не возьмеш. Дзеля справядлівасці зазначу, што і дзеткі падчас забываюцца, хто перад імі.

20 рэспандэнтаў абураюцца пастаяннай загружанасцю вучня, арганізм якога дае збой, а маладому чалавеку яшчэ ісці і ісці па дарозе жыцця.

7 чалавек незадаволены адсутнасцю індывідуальнага падыходу да дзяцей, нежаданнем дайсці да вучня.

Няма ахвоты ў сённяшніх настаўнікаў займацца пазакласнай работай, сядзець з дзецьмі пасля заняткаў: свае праблемаў хапае, ды і матэрыяльнае ўзнагароджанне не вабіць.

Так атрымалася, што 17 з 30 апытаных выхоўваюць сваіх школьнікаў без бацькі.

Нярэдка дзеці і ў поўнай сям'і адчуваюць сябе елкай у полі. Для такіх брама ў самастойнае жыццё адчыняецца ўжо за парогам школы.

У поўных сем'ях часта бытуюць сваркі, канфлікты паміж бацькамі, якія пакідаюць незагойныя раны ў маладой душы. Вось чаму на пытанне "у чым бы вы хацелі бачыць адрозненне сваёй будучай сям'і ад сям'і бацькоў", дзеці адказваюць: пазбягаць спрэчак.

15 з 30 не вельмі задаволеныя стасункамі са сваімі бацькамі, 13 чалавек атмасфера ў сям'і задавальняе, і для 2 жыццё з бацькамі – невыноснае. Толькі 10 з 30 рэспандэнтаў цалкам давяраюць сваім маці і тату і могуць знайсці дома паразуменне.

Таму і шукаюць вучні ў настаўнікаў увагу, зацікаўленасць, звычайную чалавечую дабрыню, якой яны падчас пазбаўленыя дома.

Цікава, што пераважнай большасці вучняў падабаюцца настаўнікі прадметаў гуманітарнага накірунку, толькі некаторыя аддаюць перавагу дакладным навукам.

Зразумела, і сярод літаратараў нярэдка пануе аўтарытарнасць поглядаў, калі любое адхіленне ад думкі выкладчыка ацэньваецца як непавага да сябе асабіста. Бывае, што прагматычны фізік ці хімік увасабляе справядлівасць, сардэчнасць і спагаду.

Магчыма, справа не толькі ў выкладаемай дысцыпліне, колькі ў натуры чалавека, якая калісьці выйшла з тых самых школьных сцэнаў.

А ўвогуле, ідэальна, калі ўсе бакі: вучні, іх бацькі, педагогі – дзейнічаюць разам. Калі ў школе гавораць адно, а дома – іншае, то выхаванне заканчваецца.

Вольга КАСЯКОВА.

■ ЛЕТА

# Дзеці ў горадзе

**МАЛАДЗЕЧНА. У горадзе не першы год праводзяцца летнікі на базе школ. Ранейшае скептычнае стаўленне бацькоў да іх пакрысе змяняецца. Я спецыяльна назіраў сёлета за работай некаторых – на базе КДЮСШ прафсаюзаў (басейн «Маладосць, каб было больш зразумела), дзіцячага эстэтычнага цэнтра і цэнтра пазашкольнай работы.**



Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.

**Маладзечанскі дзіцячы эстэтычны цэнтр. Даша Зелянкова, Маша Мінкевіч, Лера Кічыгіна і Алеся Найдовіч гатовыя ўзяць старт у чарговай гульні.**

Агульнае ўражанне засталося добрае. Галоўнае, што дзеці апынуліся пад наглядам і ў нармальных умовах. Харчаванне ў рэстаране, басейн, спартыўныя пляцоўкі, кінафільмы, паходы, паездкі, гульні ў парку – вось далёка не поўны пералік «мерапрыемстваў» для дзяцей. Прычым за невялікую плату.

«Рамантык» – гарадскі аздараўленчы летнік з дзённым знаходжаннем дзяцей. Арганізуецца ён штогод з 1995 года на базе цэнтра пазашкольнай работы. Гаворыць намеснік дырэктара ЦПР **Галіна Іванькіна**:

– Гэта ўжо наш дванаццаты «Рамантык». Штогод у дзве змены ў ім адпачываюць ад 100 да звыш за 200 дзяцей. Узрост – ад 7 да 15 год. Заўважыла за гэты час, што многія прыходзяць да нас кожнае лета, пакуль не спаўнялася 15. У кожнай змене стала добрай традыцыяй наведванне возера Нарач, адна-двухдзённыя турыстычныя паходы, экскурсіі ў Вязынку, іншыя месцы, сустрэчы з цікавымі людзьмі – акцёрамі, медыкамі, работнікамі службы выратавання, ветэранамі. Бацькі былі ўдзячныя нам.

Намеснік дырэктара КДЮСШ прафсаюзаў – у іх летнік доўжыўся дзве змены – **Юрый Іваніцкі** быў нешматслоўны:

– Я, як начальнік летніка, магу, напэўна, быць суб'ектыўны. Хаця ўпэўнены, што дзецям у нас някепска. Нармальнае харчаванне, басейн, экскурсіі – праграма паўнацэнная. Спытайцеся ў бацькоў, яны зманіць не дадуць.

Вось некаторыя меркаванні дарослых.

**Ірына Цімашэнкава**, прадавец Дома гандлю (дачка **Надзя** займаецца гімнастыкай):

– Грошай асаблівых мы не маем, бабуль-дзядуль таксама. А тут – трэніроўкі, вітаміны, кіно. Мы гэтага не змаглі б даць дачцэ ў такім аб'ёме.

У **Тацціяны Скарняковай** сын **Андрэй** займаецца плаваннем:

– Мы з мужам працуем да адпачынку ў жніўні (разам была ў ліпені – аўт.). Каб заняць сына, прадоўжыць заняткі плаваннем, уладкавалі яго ў летнік на базе басейна. Праграма насычаная.

**Сяргей Шымасюк**, працуе на «Спадарожніку», у летніку сын **Дзіма** і дачка **Яўгенія**:

– Выехаць няма куды – дорага. А тут дзеці плаваюць, па вуліцах не бегаюць.

**Вольга Сураўцава** працуе ўрачом:

– Нашу **Валерыю** не ведаю куды б і ўладкавалі. А тут і дачка, і мы задаволены.

Метадыста гарадскога аддзела адукацыі **Анатоля Кацельнікава** сустрэў якраз у гарадскім парку. Побач весела бегалі дзеці з гарадскога летніка.

– Мяркуйце самі, – заўважыў ён. – Летнік размешчаны кампактна. Асноўнае месца «базіравання», стадыён, парк, рэстаран размешчаныя побач, не трэба паўгадзіны топаць на абед (ці нават аўтобус заказваць). А чым кепска ў парку бавіць час? Свежае паветра, прахалода. У загараднія летнікі грошы бухаем, а ці заўсёды ёсць ад гэтага плён?

Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.

■ ЭНЕРГЕТЫКА

# Будзе другі вятрак

**МЯДЗЕЛ. Год таму каля вёсак Занарач і Дружная пачала працаваць ветраэнергетычная ўстаноўка. Дабрачынная арганізацыя «Дамы замест Чарнобыля» з Нямеччыны і МДГА «ЭкаДОМ» неўзабаве збіраюцца ў працяг праекта пабудаваць яшчэ адзін вятрак.**

Ён будзе больш магутны: у першага намінальная магутнасць складала 250 КВт, у гэтага – 650 КВт. Да таго ж, ён будзе і вышэйшы.



Фота з архіва Алеся ВЫСОЦКАГА.

**Пакуль вятрак адзін**

– Цяпер заканчваюцца праектныя работы, прывязка да мясцовасці, – расказвае дырэктар «ЭкаДОМа» **Юрый Супруновіч**. – У бліжэйшы час пачнем падрыхтоўчы этап будаўніцтва. Імкнемся, каб ветраэнергетычная ўстаноўка запрацавала ўжо ўвосень, бо восень, зіма і лета – гэта перыяд найбольшага ветравога патэнцыялу.

Размяшчацца другі вятрак будзе за 250 метраў ад першага.

Алесь ВЫСОЦКІ.

# Жыллёвыя праблемы педагогаў

**МАЛАДЗЕЧНА. 91 педагог раёна стаіць у чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў.**

У сярэднім 14 спецыялістаў штогод змогуць палепшыць свае ўмовы. У раёне створаны фонд падтрымкі маладых спецыялістаў. З яго маладыя настаўнікі атрымліваюць разавую дапамогу ў 10 мінімальных заробатных плат. Штомесяц па 3 "мінімалкі" яны атрымліваюць як кампенсацыю за наём жылля.

Юрый КАРПІЦКІ.

■ СУВЯЗІ

# Студэнты прапануюць

**МЯДЗЕЛ. У маі на тэрыторыі раёна працавала група студэнтаў Берлінскага тэхнічнага ўніверсітэта, якія вывучаюць рэгіянальнае планаванне. На мінулым тыдні ў райвыканкоме яны прадставілі вынікі сваёй працы.**

Расказвалі студэнты пра ідэі развіцця Мядзельскага раёна, вёсак Занарач і Дружная. Шмат прапаноў датычыць развіцця экатурызму, калі людзі будуць прыпынацца ў дамах мясцовых жыхароў з магчымасцямі паспытаць сялянскай экзотыкі і ўмовамі для актыўнага адпачынку (катанне на конях, экскурсіі).

Адной з праблемаў на шляху прыцягнення турыстаў з замежжа на Нарач немцы лічаць недахоп інфармацыі. Нават у Internet канкрэтнай інфармацыі няшмат.

Алесь ВЫСОЦКІ.

■ СУВЯЗЬ

# Праграма тэлефанізацыі

**МАЛАДЗЕЧНА. Раённы Савет дэпутатаў сваім рашэннем прадоўжыў тэрмін выканання праграмы "Аб развіцці сродкаў сувязі і радыёфікацыі раёна".**

За тэрмін дзеяння праграмы (2,5 года) на сяле ўвялі 1,3 тысячы кватэрных тэлефонаў. Як сказаў начальнік РВЭС **Леанід Валатовіч**, за гэты ж тэрмін у горадзе ўстанавілі тэлефонаў менш, як у раёне.

29 населеных пунктаў раёна не маюць тэлефоннай сувязі. У 11 з іх да канца года павінны правесці тэлефонную сувязь.

Асноўнай прычынай невыканання ўсіх пунктаў праграмы Леанід Валатовіч назваў нізкае фінансаванне з боку райвыканкома: са 104 мільёнаў рублёў, запланаваных на выкананне праграмы, выдзеліў 2 мільёны.

Начальнік РВЭС нацэлены на выкананне ўсіх пунктаў, акрамя будаўніцтва радыёпераадатчыка ў Маладзечне.

Юрый КАРПІЦКІ.

■ ІМЯНІНЫ

**31 жніўня**

**Праваслаўныя**: Амяляна, Георгія, Дзяніса, Івана, Іларыёна, Макара, Серапіёна.

**Каталіцкія**: Багдана, Марка, Раймунда.

**1 верасня**

**Праваслаўныя**: Фёклы, Агапія, Гапея, Андрэя, Цімафея.

**Каталіцкія**: Браніслава, Ідзія.

**2 верасня**

**Праваслаўныя**: Самуіла.

**Каталіцкія**: Саламона, Сцяпана, Юльяна.

**3 верасня**

**Праваслаўныя**: Васы, Абрама, Агапія, Гапея, Фадзея.

**Каталіцкія**: Ізабелы, Рыгора, Шымана.

**4 верасня**

**Праваслаўныя**: Агафоніка, Апанаса, Зоціка.

**Каталіцкія**: Разаліі, Ружы.

**5 верасня**

**Праваслаўныя**: Калініка, Яўціхія.

**Каталіцкія**: Дароты, Ваўжынца.

**6 верасня**

**Праваслаўныя**: Арсенія, Ґеоргія, Пятра, Яўціхія.

**Каталіцкія**: Беаты, Яўгена.

■ ДНІ



31 жніўня – **85 год з дня нараджэння** (1916) **З. Браварскай**, беларускай актрысы, народнай артысткі Беларусі.

1 верасня – **75 год з дня нараджэння** (1926) **В. Глушакова**, беларускага спевака, народнага артыста Беларусі.

**Дзень ведаў**

2 верасня – **Дзень беларускага пісьменства.**

**Дзень работнікаў нафтавай і газавай прамысловасці.**

3 верасня – **270 год з дня нараджэння С. Богуш-Сестранцэвіча** (1731–1826), беларускага палітычнага і царкоўнага дзеяча, вучонага-славіста, пісьменніка.

5 верасня – **100 год з дня нараджэння В. Вольскага** (1901–1988), беларускага пісьменніка.

**Кінатэатр «Радзіма»**

**Вялікая зала, жнівень-верасень**

31.08 – 2.09 "**Вар'яцкае лета**", ЗША, камедыя для моладзі 15-00, 19-30

"**Невідзімка**", ЗША, фантастыка, акрама асоб да 16 год 17-10, 22-00

1 – 2.09 "**Дандзі па мянушцы Кракадзіл**", Аўстралія, камедыя 15-00

"**Кракадзіл Дандзі-2**" Аўстралія, камедыя 17-00

"**Вар'яцкае лета**", ЗША, камедыя для моладзі 19-30

"**Невідзімка**", ЗША, фантастыка, акрама асоб да 16 год 22-00

3 – 9 "**Кракадзіл Дандзі ў Лос-Анжэлесе**", ЗША, камедыя, прэм'ера 15-00, 17-00, 19-00, 21-00

**Для дзяцей**

31 жніўня – "**Дом з прывідамі**" (Расія, 9 частак) 11-00

1 верасня – "**Сонца ў кішэні**" (Расія) 13-00

2 – "**Зачараваны хлопчык**" (мультыпл.) 13-00

## Бясплатная арэнда

**МАЛАДЗЕЧНА. Старшыня гарвыканкома Мікалай Чурсін даў указанне перанесці пытанне аб арэндзе памяшканняў прадпрыемствамі розных формаў уласнасці на наступнае пасяджэнне выканкома. Гэтае пытанне больш падрабязна разгледзяць у верасні.**

Найбольшыя праблемы ў спагнанні даўгоў за арэндную плату мае ВУП "Камунальнік" – 14 мільёнаў рублёў.

Кіраўнікам прадпрыемстваў і работнікам выканкома і падатковай інспекцыі далі месяц, каб навесці парадак, а дзе можна, спагнаць даўгі з арандатараў.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ **АЎТАРЫНАК**

## Попыт на іншамаркі расце

Парк легкавых аўтамабіляў пастаянна расце з года ў год – цяпер іх каля 1,3 мільёна. 90% – патрыманыя іншамаркі. Грамадзянам Еўропы больш выгадна збываць нам старыя аўтамабілі, чым у сябе на радзіме даплачваць 400–500 марак за ўтылізацыю. А з 2006 года ў Еўропе пачне дзейнічаць парадак, калі аўто, што старэйшыя за 7 год і выходзяць з ужытку, павінны будуць утылізавацца за кошт вытворцы. Таму да нас можа хлынуць паток вельмі старых машын літаральна за бясцэнак.

У сувязі з гэтым Расія збіраецца ўжо з наступнага года ўвесці мытныя пошліны на аўтамабілі замежнай вытворчасці, якім больш за 7 год, такія ж, як на новыя аўто. Беларусі, якая ўваходзіць з Расіяй у адзіную мытную зону, таксама давядзецца прымаць нейкія меры.

Аналіз кан'юнктуры рынку аўтамабіляў за лета паказвае, што пры практычна нязменнай прапанове попыт на аўтамабілі расце. Цяпер у нашых газетах тыповыя аб'явы, накшталт: "Куплю VW, Audi, нядорага, можна на запчасткі". Прычым, значная доля попыту прыходзіцца на аварыйныя аўтамабілі "у любым стане". Наўрад ці гэта варта лічыць вынікам шматгадовага росту дабрабыту народа.

Па-ранейшым высокая патрэбнасць у дакументах на б/у іншамаркі – да трэцяй часткі попыту на second hand, што яшчэ раз пацвярджае ісціну аб празрыстасці беларускіх граніц. Лідзіруюць па попыце на былыя ва ўжытку аўтамабілі Фольксвагены, потым ідуць Аўдзі, Опель, БМВ, Мерседэс і Форд.

Сярэдні кошт аўтамабіля б/у на мінскім рынку складае каля 1000 долараў у пакупнікоў і 2300–3000 долараў у прадаўцоў. Прычым, на аўтарынку на 1 аўтамабіль вытворчасці СНД прыходзіцца 4 іншамаркі. На рынку ў Гродне цэны ніжэйшыя і прапановаў больш – 8–9 іншамарак на адзін расійскі аўтамабіль.

Прадаюцца, у асноўным, старыя машыны, таму што пакупніцкая здольнасць насельніцтва вельмі малая. Доля машын узростам звыш за 10 год – 65%, 7–10 год – 26%, 4–6 год – 4%. Удзельная вага германскіх машын складае 40%, амерыканскіх – 28%, японскіх – 18%.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

# Заўтра ў Маладзечне:

## адкрыццё чыгуначнага прыпынку «Фестывальны»...



Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.

**Маладзечна. Чыгуначны прыпынак «Фестывальны» (выгляд у напрамку Мінска) амаль падрыхтаваны да свайго ўрачыстага адкрыцця ў суботу (здымак зроблены ўчора).**

## ...і помніка Агінскаму ля музычнага вучылішча

**На жаль, работы па мантажы помніка былі запланаваныя на ноч з чацвярга на пятніцу, таму здымак помніка зрабіць мы не паспявалі. Па вытворчай тэхналогіі, пятнічны нумар газеты мы вымушаныя здаваць у друкарню ў чацвер днём.**

■ **РЦГіЭ ПАВЕДАМЛЯЕ**

## Курачкі радыеактыўныя

**МАЛАДЗЕЧНА. Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі даў інфармацыю пра апошнія вынікі даследавання дароў лесу на радыенукліды цэзію.**

Да грыбоў, якія найбольш актыўна назапашваюць радыенукліды, адносяцца маслякі, махавік жоўта-буры, польскі грыб, а таксама каўпак кольчаты, або курачка, гаркушка, а некаторыя віды гаварушак утвараюць групу моцнаўспрымальных грыбоў. Гэтыя дадзеныя трэба ўлічваць пры зборы. Арыентуйцеся і на карту ступені забруджвання грыбоў радыенуклідамі ў Беларусі пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Перавышэнне актыўнасці ў 2–5 разоў знойдзена ў грыбах (курачкі, махавікі, баравікі) у Плёсах, Навасёлках (Смаргонскі раён), Талуцi (Вілейскі раён).

**Ларыса ЧЫРВОННАЯ, загадчыца санітарна-гігіенічнай лабараторыі МРЦГіЭ.**

## Прадпрымальнікі і райвыканком

**ВІЛЕЙКА. «РГ» не раз звярталася да дзейнасці мясцовага рынку.**

Сярод найбольш аб'ёмных публікацый – допіс старшыні прафсаюзнай арганізацыі індывідуальных прадпрымальнікаў **Мікалая Мелеца** і адказ Вілейскага райвыканкома. Пасля апошняй публікацыі ў рэдакцыю зноў звярнуўся М. Мелец. Ён сцвярджае, што з моманту публікацыі матэрыялу «Рынак у бетонным мяшку» паляпшэння сітуацыі не адбылося. Праблемы рынку не вырашаюцца.

Савет прафсаюзнай арганізацыі індывідуальных прадпрымальнікаў Вілейкі заявіў пра тое, што ў адказе райвыканкома на згаданую публікацыю жадаемае выдаецца за сапраўднае. Некаторыя пытанні, узнятыя прафсаюзам у публікацыі, райвыканком, на іх погляд, замоўчвае.

М. Мелец звяртаўся да намесніка старшыні райвыканкома **Мікалая Кароткага**, чый подпіс стаіць пад адказам у рэдакцыю. Той заўважыў, што ліст у «РГ» і аблвыканком рыхтаваў загадчык аддзела гандлю, грамадскага харчавання, тавараў і паслуг **Аляксандр Корсак**. Апошні зазначыў, што ў адказе разглядаў толькі тыя пытанні, якія тычацца ягонай работы, а менавіта, гандлю.

Не ўдаючыся ў падрабязнасці, заўважым, што насуперак сказанаму ў тым лісце, Вілейская прафсаюзная арганізацыя індывідуальных прадпрымальнікаў існуе і мае пасведчанне, выдадзенае райвыканкомам.

18 новых пытанняў задае М. Мелец Вілейскаму райвыканкому. Усе яны тычацца работы рынку. Не будзем станавіцца на чыйсьці бок у гэтым мясцовым канфлікце. Аднак калі ёсць праблемы, іх трэба вырашаць. На жаль, калі чалавек звяртаецца ў газету, найчасцей гэта сведчыць пра тое, што ў іншых месцах адказу ён не атрымаў. Ды і церпіць ад гэтай нявырашанасці, у першую чаргу, пакупнік.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

## Курсы валют НБ РБ

| | 23 жніўня | 30 жніўня |
|---|---|---|
| Долар | 1441,00 руб. | **1445,00** руб. |
| Нямецкая марка | 677,57 руб. | **673,80** руб. |
| Літ | 360,34 руб. | **361,34** руб. |
| Расійскі рубель | 49,10 руб. | **49,22** руб. |
| Злоты | 337,59 руб. | **342,38** руб. |
| ЕЎРА | 1325,22 руб. | **1317,84** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1460 – 1480 руб. | **1460 – 1480** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 22.08 | 29.08 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2400 | **2400** |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 7160 | **7800** |
| Сасіскі, 1 кг | 3100 | **3100** |
| Селядзец, 1 кг | 1720 | **1720** |
| Рыс, 1 кг | 530 | **530** |
| Грэчка, 1 кг | 410 | **410** |
| Цукар, 1 кг | 680 | **680** |
| Алей, 1 л | 980 | **990** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 620 | **600** |
| Маянэз, 200 г | 270 | **270** |
| Кава "Пеле", 100 г | 1600 | **1600** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 520 | **530** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 450 | **430** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 350 | **350** |
| Капуста, 1 кг | 250 | **250** |
| Агуркі, 1 кг | 650 | **800** |
| Памідоры, 1 кг | 580 | **600** |
| Лімоны, 1 кг | 1800 | **1600** |
| Апельсіны, 1 кг | 1500 | **1550** |
| Кавуны, 1 кг | 500 | **300** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1000 | **1000** |
| Масла, 1 кг | 2600 | **2400** |
| Тварог, 1 кг | 800 | **800** |
| Малако, 1,5 л | 400 | **350** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 900 | **850** |
| Бульба, 1 вядро | 1400 | **1500** |
| Морква, 1 кг | 400 | **400** |
| Брусніцы, малое вядро | 4000 | **5000** |
| Слівы, малое вядро | 2000 | **1000** |
| Яблыкі, 1 кг | 200 | **200** |

■ **СПАЖЫВЕЦ**

## Артыкул для прадаўцоў рэчавага рынку

**МАЛАДЗЕЧНА. Відаць, некампетэнтны ў некаторых пытаннях прафсаюз прадаўцоў рэчавага рынку. Бо ён не толькі дазваляе прадаўцам не выдаваць чэкі, але і гаворыць, што гэта законна.**

У аўторак у маладзечанскую арганізацыю па абароне правоў спажыўцоў зайшла прадавец. Яна выдае чэкі толькі па патрабаванні спажыўцоў. Гаворыць, што менавіта так прадаўцоў вучыць прафсаюз і гавораць у падатковай.

Юрыст **Аляксандр Жураўлёў** гаворыць, што ніхто не адмяняў ні Грамадзянскі кодэкс, ні "Правілы гандлю на рынках РБ", ні "Асноўныя правілы рознічнага гандлю", ні закон "Аб абароне правоў спажыўцоў". Там гаворыцца, што здзелка па куплі-продажы лічыцца сапраўднай ТОЛЬКІ пасля таго, як спажывец атрымае чэк. Тое ж гаворыцца ў дэкрэце №12 (пункт 5, абзац 2).

Таму гарвыканком заклікае выдаваць спажыўцам чэкі не толькі па іх патрабаванні, а і пры кожнай здзелцы. За невыкананне заканадаўства прадпрымальнікаў могуць пазбавіць месца на рынку ці ліцэнзіі на гандаль.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ **КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА**

## Сам сабе «дапамог»

**АСТРАВЕЦ. Днямі паблізу вёскі Казаноўшчына жыхар Літвы на сваім "Мерседэсе" з'ехаў у каляіну і забуксаваў.**

Запрошаны ў памагатыя выпадковы прахожы нейкім чынам трапіў пад колы іншамаркі і загінуў. Вадзіцель з месца здарэння знік. Аднак астравецкія міліцыянеры праз колькі дзён выйшлі на след літоўца і затрымалі яго.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Чарговая аварыя

**СМАРГОНЬ. У нядзелю ў вёсцы Мілейкава матацыкліст без вадзіцельскіх правоў рухася па дарозе. На павароце з кіраваннем не справіўся.**

У выніку вадзіцель разам з матацыклам і пасажырам трапіў у кювет і ўрэзаўся ў прыдарожнае дрэва. Адзін з хлопцаў загінуў на месцы. А другі з лёгкімі ўшыбамі адпраўлены ў бальніцу.

**Ірына БРАЛКОЎСКАЯ.**

## Дапамажыце ўстанавіць асобы

**МАЛАДЗЕЧНА. ГРАУС устанаўлівае асобы невядомых мужчын:**

1. Труп знойдзены 18. 07. 2001 года ў вадаёме вёскі Насілава Маладзечанскага раёна.

Прыметы: на выгляд 28–35 год, рост 175–180 см, сярэдняга целаскладу, твар авальны, бровы дугападобныя, нос сярэдні, спінка прамая, валасы цёмна-русыя, прамыя, сярэдняй даўжыні.

Асаблівая прымета: у верхняй сківіцы 3-і зуб злева з металу жоўтага колеру.

2. Труп знойдзены 17. 08. 2001 года ў лясным масіве паблізу вёскі Забалацце Маладзечанскага раёна. Даўнасць смерці 6-7 месяцаў таму.

Прыметы: узрост 20–35 год, даўжыня цела каля 180 см.

Быў апрануты: куртка кароткая скураная чорная на маланцы з футравай падшпількай карычневага колеру і футравым каўняром шэрага колеру, кофта байкавая спартыўная цёмна-сіняя з надпісам на грудзях "BIG STAR", майка цёмна-сіняя, джынсы сінія "LEVI STRAUS", з дзягай карычневага колеру "DIESEL", красоўкі чорныя з карычневымі ўстаўкамі "LEVIS" 44–45 памеру.

На левай руцэ гадзіннік "VECTOR CLASSIC" у корпусе з жоўтага металу са скураным раменьчыкам бардовага колеру.

Просім грамадзян, якія валодаюць інфармацыяй пра мужчын, чые асобы ўстанаўліваецца, паведаміць пра гэта ў аддзел міліцыі па тэл. у Маладзечне 76155, 71446, 71656 або 02.

**Выбары-2001**



Да выбараў новага прэзідэнта засталося **9** дзён

■ АНОНС

## Сустрэчы з Ганчарыкам

**СМАРГОНЬ. Кандыдат у прэзідэнты Уладзімір Ганчарык запрасіў выбаршчыкаў на сустрэчу, якая адбудзецца заўтра ў ГДК (мікраваён Заходні) а 12 гадзіне. У сустрэчы возьме ўдзел даверная асоба кандыдата Сямён Домаш.**

А даверная асоба У. Ганчарыка Анатоль Лябедзька запрашае на сустрэчу, якая адбудзецца 2 верасня ў 19-30 у раённым Доме культуры.

Смаргонцы і госці горада змогуць атрымаць адказы на пытнні:

– Што нас чакае, калі свой голас мы аддадзім У. Ганчарыку?

– Хто і чаму арганізаваў украданне Віктара Ганчара і Юрыя Захаранкі?

– Дзе грошы, выручаныя за продаж самалётаў у Перу?

– Колькі каштуе прэзідэнт Лукашэнка?

– Што рабіць, каб жыць добра?

**Валянціна ВІКТАРАВА.**

■ КАМЕНТАРЫЙ ЮРЫСТА

# Падрыхтоўка і правядзенне выбараў прэзідэнта

**Выбары прэзідэнта з'яўляюцца свабоднымі і праводзяцца на падставе ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні. Права выбіраць маюць усе грамадзяне Беларусі, якія дасягнулі 18 год. Выключэнне складаюць тыя, што ўтрымліваюцца па прыгаворы суда ў месцах пазбаўлення волі, але прызнаныя судом нядзеяздольнымі. У галасаванні таксама не ўдзельнічаюць асобы, у адносінах да якіх у парадку, устаноўленым крымінальна-працэсуальным заканадаўствам, абраная мера стрымання – утрымліванне пад вартай. Свабода прэзідэнцкіх выбараў у тым, што выбаршчыкі асабіста выражаюць, ці ўдзельнічаць ім у выбарах, за каго галасаваць на іх. Кантроль за волевыяўленнем выбаршчыкаў забараняецца.**

### Спісы выбаршчыкаў

У спіс тых, што маюць права ўдзельнічаць у выбарах уключаюцца ўсе грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія дасягнулі да дня або ў дзень выбараў 18 год, што пастаянна ці часова пражываюць да моманту складання спісу на тэрыторыі дадзенага ўчастка для галасавання і маюць права ўдзельнічаць у выбарах. Грамадзяне, якія маюць права ўдзельнічаць у выбарах, могуць быць уключаныя ў спіс толькі на адным участку для галасавання. Спісы грамадзян прадастаўляюцца для ўсеагульнага азнаямлення за 15 дзён да выбараў. Грамадзяне, па якойсьці прычыне не ўключаныя ў спіс, дадаткова ўключаюцца ўчастковай камісіяй у спіс на падставе дакументаў, што засведчваюць асобу і пацвярджаюць пражыванне на тэрыторыі гэтага ўчастка для галасавання. Грамадзянам забяспечваецца магчымасць азнаёміцца са спісам і праверыць правільнасць яго складання ў памяшканні ўчастковай камісіі. Кожнаму грамадзяніну прадастаўляецца права абскардзіць неўключэнне, няправільнае ўключэнне ў спіс або выключэнне са спісу, а таксама дапушчаныя ў спісе недакладнасці ва ўказанні дадзеных пра грамадзяніна ва ўчастковую выбарчую камісію. Спісы грамадзян, якія маюць права ўдзельнічаць у выбарах, удакладняюцца участковай выбарчай камісіяй напярэдадні кожнага тура галасавання.

### Агітацыя

Пры правядзенні перадвыбарнай агітацыі грамадзянам Беларусі, палітычным партыям, іншым грамадскім аб'яднанням, працоўным калектывам, давераным асобам кандыдатаў у прэзідэнты прадастаўляецца права свабоднага і ўсебаковага абмеркавання перадвыбарных праграм кандыдатаў у прэзідэнты, іх палітычных, дзелавых і асабістых якасцяў, правядзення агітацыі за ці супраць кандыдата на сходах, у СМІ, а таксама ў час сустрэч з выбаршчыкамі. Агітацыйныя друкаваныя матэрыялы павінны ўтрымліваць інфармацыю аб арганізацыях або асобах, адказных за іх выпуск, а таксама пра іх тыраж. Распаўсюджванне ананімных агітацыйных матэрыялаў забараняецца.

На ўсіх участках для галасавання не пазней за 14 дзён да выбараў афармляюцца стэнды з інфармацыйнымі матэрыяламі пра кандыдатаў. Таксама стэнды захоўваюцца ў памяшканнях для галасавання і ў дзень выбараў. Агітацыя ў дзень галасавання не дапускаецца. Агітацыйныя друкаваныя матэрыялы, раней вывешаныя па-за памяшканнямі для галасавання, захоўваюцца на ранейшых месцах.

Кандыдаты ў прэзідэнты, іх даверaныя асобы, арганізацыі і асобы, якія агітуюць за выбранне кандыдатаў, не маюць права раздаваць грамадзянам грашовыя сродкі, падарункі і іншыя матэрыяльныя каштоўнасці, праводзіць ільготную распрадажу тавараў, бясплатна прадастаўляць любыя паслугі і тавары, акрамя агітацыйных друкаваных матэрыялаў.

### Датэрміновае галасаванне

Выбаршчык, які не мае магчымасці ў дзень выбараў знаходзіцца па месцы жыхарства, мае права не раней, чым за пяць дзён да выбараў ва ўмовах, якія выключаюць кантроль за яго волевыяўленнем, запоўніць у памяшканні участковай камісіі бюлетэнь і апусціць яго ў апячатаную асобную скрыню для галасавання выбаршчыкаў, якія будуць адсутнічаць у дзень правядзення выбараў па месцы іх жыхарства. Афіцыйнага пацвярджэння прычын немагчымасці выбаршчыка прыйсці ў памяшканне для галасавання ў дзень выбараў не патрабуецца.

Датэрміновае галасавання здзяйсняецца з 10 да 14 гадзін і з 16 да 19 гадзін у прысутнасці не менш чым двух членаў участковай камісіі. Участковая камісія абавязаная забяспечыць магчымасць удзельнічаць у галасаванні выбаршчыкам, якія па стане здароўя ці па іншых важкіх прычынах не змогуць прыйсці ў дзень выбараў у памяшканне для галасавання. У гэтых мэтах ва участковай камісіі павінна быць неабходная колькасць пераносных скрыняў для галасавання, колькасць якіх устанаўліваецца вышэйстаячай камісіяй.

**Заканчэнне будзе.**

**Дзмітрый СІНЯЎСКІ, памочнік старшыні суда г. Маладзечна.**

## Міліцыя без работы

**МЯДЗЕЛ. У панядзелак маладыя актывісты АГП зладзілі каля рынку «ланцуг неабыякавых людзей».**

Прайшла акцыя ў рамках агульнанацыянальнай кампаніі «Хочам ведаць праўду». Прайшло ўсё арганізавана і спакойна, міліцыя, адпаведна, засталася без работы і «хапуну» не было.

**Па матэрыялах інфармацыйных агенцтваў.**

■ АКЦЫІ

## ЗУБРы абжылі Вілейку

**ВІЛЕЙКА. У нядзелю актывісты руху ЗУБР правялі акцыю на рок-фестывалі беларускіх груп. Юнакі і дзяўчаты распаўсюджвалі газеты, наклейкі «Время выбирать» і «Время убирать», паднялі расцяжку «Час пераменаў 9. 09. 2001».**

Канфліктаў з міліцыяй, якая паводзіла сябе вельмі карэктна, не было. Пасля заканчэння актывісты ЗУБРоў купілі пакеты і прыбралі ля сцэны смецце, што пакінула пасля сябе моладзь.

**Яўген ЦЕРАХАЎ.**



Фота з архіва Яўгена ЦЕРАХАВА.

**Эпізод рок-фестывалю беларускіх груп у Вілейцы.**

**ВІЛЕЙКА. У нядзелю ЗУБРы абменьвалі аўдыёкасеты.**

У парку жадаючыя маглі замест дзвюх любых касет з запісамі расійскіх гуртоў ці выканаўцаў атрымаць аўдыёзапіс беларускіх рок-каманд.

**Алена КАСПЯРОВІЧ.**

## Астраўчан цікавіць лёс зніклых

**АСТРАВЕЦ. У нядзелю ля рынку актывісты АГП правялі акцыю "Хочам ведаць праўду". Яе ўдзельнікі трымалі ў руках партрэты вядомых палітыкаў, журналістаў, што зніклі без вестак, раздавалі жыхарам райцэнтра спецвыпускі газет.**

Пасля правядзення акцыі, як зазначыў старшыня раённай арганізацыі АГП **Іван Крук**, міліцыя затрымала настаўніка Гудагайскай СШ **Сяргея Буневіча**. Пасля дачы тлумачэнняў пра ўдзел у акцыі яго адпусцілі.

У дачыненні да Івана Крука (за магчымую арганізацыю акцыі) праваахоўныя органы праводзяць праверку. Пракурор раёна **Валерый Працкайла** гаворыць, што Крук можа быць прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

■ ШЧЫРА

## Гарвыканком агітуе

**МАЛАДЗЕЧНА. У сераду кіраўніцтва гарвыканкома правяло сустрэчу з індывідуальнымі прадпрымальнікамі і кіраўнікамі прадпрыемстваў пераважна недзяржаўнай формы ўласнасці.**

Першы намеснік старшыні **Яфім Ідэльчык** папрасіў прысутных прыйсці на выбары і прагаласаваць, зразумела, за дзеючага прэзідэнта:

– Агульны вынік выбараў, лічу, вядомы. Вельмі важна, як на выбарах будзе выглядаць Маладзечна ва ўмовах, калі гораду аказваецца падтрымка кіраўніцтвам краіны. Мы хочам пагаварыць з усімі маладзечанцамі і растлумачыць пазіцыю гарвыканкома. Калі ўлічыць тых, хто заняты ў недзяржаўным сектары эканомікі плюс родных, сяброў, сваякоў, атрымаецца каля 30 тысяч выбаршчыкаў з 69 тысяч усяго па горадзе.

**Запісаў Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ПАСЛЯ НАДРУКАВАНАГА

# Пазіцыя кіраўніка ТБМ

**МАЛАДЗЕЧНА. Пасля з'яўлення ў газеце матэрыялу «Ліст да старшыні» («РГ» №26, ад 29 чэрвеня) сваю пазіцыю выказвае старшыня Маладзечанскай гарадскй Рады ТБМ Сяргей Юркевіч. Нагадаем, у артыкуле гаворка ішла пра адкрыты ліст прыхільнікаў беларускай мовы да старшыні Маладзечанскага гарвыканкома. У ім вядомыя ў горадзе людзі закранялі праблемы беларускамоўнага навучання, «бяздомнасць» мясцовага ТБМ і іншае.**

– Аўтар артыкула звярнулася па каментарый да былога кіраўніка Маладзечанскай арганізацыі ТБМ, з думкамі якога я не заўсёды згодны.

Апошнім часам, лічу, назіраецца станоўчая тэндэнцыя ва ўзаемадачыненнях ТБМ і гарадскіх уладаў, зрэшты, як і з іншымі мясцовымі грамадскімі аб'яднаннямі. Гарадскі галава паварочваецца тварам да грамадскіх структур, прыслухоўваецца да іх пазіцыі. Мушу сказаць, што мясцоваму ТБМ удалося знайсці паразуменне з гарадскім аддзелам адукацыі, і ў гэтым плане пачынаецца доўгатэрміновае ўзаемасупрацоўніцтва. Мяняецца ў лепшы бок стаўленне гарадскіх уладаў да нас – мяняецца і наша пазіцыя.

Так, у мяне ёсць сваё, адрознае ад уладнай, меркаванне на існуючую ў краіне сітуацыю, мая грамадзянская пазіцыя не супадае з пазіцыяй улады, натуральна, гэта кідае цень і на арганізацыю, якую я цяпер узначальваю. На мой погляд, лепш мець уласную пазіцыю, чым не мець яе наогул. Аднак гэта зусім не азначае, што ТБМ адмаўляецца ад супрацоўніцтва з гэтай уладай, перш за ўсё, у культурнай, гуманітарнай сферы. І наша стаўленне да ўлады цалкам залежыць ад яе адносін да праблем беларусізацыі, беларускай мовы і правоў чалавека – не сакрэт, што ў апошнія гады сітуацыя тут вельмі пагоршылася.

Што да папрокаў у мой адрас, то нагадаю, што па іміджы ТБМ быў нанесены вельмі моцны ўдар да майго прыходу. У той час ТБМ валодала невялічкім памяшканнем па вуліцы Віленскай (побач з райвыканкомам), дзе, мякка кажучы, адбываліся некаторыя амаральныя дзеянні з боку асобных прадстаўнікоў ТБМ і не толькі. Пра што ведала кіраўніцтва горада і спрабавала, на той час, лічу, цалкам справядліва пазбавіць ТБМ гэтага памяшкання. Тым больш, што былі скаргі ад суседзяў па доме. Гэты пакойчык адстойвалі, не зважаючы на непрыстойнасці, што там адбываліся. Потым ад яго давялося адмовіцца, каб не кідаў негатыўны цень на арганізацыю.

Перадача каталіцкага храма ў вёсцы Плябань, дзе адбываліся важныя гістарычныя падзеі, звязаныя з паўстаннем у 1863 годзе на чале з К. Каліноўскім, пад юрысдыкцыю праваслаўнай царквы цалкам на сумленні тагачаснага кіраўніцтва ТБМ і райвыканкома. Не маю нічога супраць праваслаўных, бо сам ім з'яўляюся, аднак, з пункту гледжання гістарычнай памяці і павагі да сваіх продкаў, гэта вялікая памылка.

А заўвага наконт беспрацоўнасці? Зычу, каб вас ніколі не звальнялі з працы за іншадумства ці па палітычных матывах. Я лічу за годнасць быць у апазіцыі да маразму і саўковасці. Таксама лічу, што кіраўнік любой грамадскай арганізацыі, у тым ліку, ТБМ павінен быць незалежны і мець уласны твар, а не той, які яму прапануе той ці іншы чыноўнік. Не можа быць кіраўніком грамадскай арганізацыі вясельны генерал, як і не павінна быць у дэмакратычнай дзяржаве кішэнных партый, аб'яднанняў, якімі дзяржаўная ўлада можа распараджацца, як ёй выгадна.

За апошні год ТБМ здолела правесці звыш за 10 шоў-віктарын па Беларушчыне для навучэнцаў школ, ПТВ горада. З-за абмежаванасці часу для выступлення на нарадзе ў гарвыканкоме я не змог распавесці пра ўсе тыя мерапрыемствы, што за апошні год правяло мясцовае ТБМ, ды і гаворка была зусім не пра гэта. Так, напрыклад, у маі 2000 года ТБМ правяло двухдзённы дабрачынны фэст "Рок-немаўля 2000 – ДЗЕЦЯМ!", сродкі, сабраныя з продажу білетаў на яго, былі цалкам ахвяраваны дзецям-інвалідам. Крыху пазней у Мінскім абласным драмтэатры адбыўся бардаўскі фэст з удзелам вядомых і пачынаючых выканаўцаў. Варта сказаць, што ў культурніцкіх акцыях ТБМ, дзе заўсёды прапагандуецца беларуская мова, бралі ўдзел не толькі прызнаныя майстры культуры, якіх часта можна пабачыць па ТБ ці пачуць па радыё, але і пачынаючыя, што вельмі важна, – мы імкнемся, па магчымасці, падтрымаць творчую моладзь і тым самым выхоўваць маладую нацыянальную эліту. Гэта далёка не ўсё, што здолела правесці ТБМ за апошні час. У бліжэйшы час у Маладзечне ды іншых населеных пунктах Маладзечаншчыны пройдзе цэлы шэраг культурніцкіх і спартыўных імпрэзаў пад эгідай мясцовага ТБМ, сярод іх традыцыйныя бардаўскія і рок-канцэрты, велапрабег па пяці буйных мястэчках рэгіёна.

У шэрагах ТБМ я знаходжуся ўжо шмат год. Пра тое, як я і мае паплечнікі працавалі ўвесь гэты час, колькі было праведзена рознага кшталту акцый, накіраваных на папулярызацыю беларускай культуры і роднай мовы, ведае, лічу, багата людзей.

**Падрыхтаваў Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**

# ВІНШАВАНКІ

Віншуем
**Баляслава Міхайлавіча Былінскага**
з 70-годдзем!
Жадаем здароўя, даўгалецця, бадзёрасці і ўсяго найлепшага.
*Жонка, дзеці, унукі.*

**Ніне Уладзіміраўне Северын**
Ад усёй душы віншуем з днём нараджэння!
Тепла твоей души на всех хватает.
Ты мать, ты бабушка, свекровь...
Прими, родная, в день рожденья
И благодарность, и любовь!
*Муж, сям'я сына, сям'я дачкі, сваццця.*

Дарагая
**Ірына Фёдараўна**!
Віншуем цябе з 55-годдзем!
Желаем удачи, тепла и добра,
Чтоб все неудачи сгорели дотла!
Чтоб жить – не тужить до ста лет довелось,
Пусть сбудется то, что еще не сбылось!
*Сям'я Свідуковічаў.*

Шчыра віншуем з днём нараджэння **Аляксандра Часлававіча Баршчука**! Жадаем здароўя, кахання, шчасця. *Света, сын Дзіма.*

Шчыра віншуем з днём нараджэння **Лізу Мандрык**! Жадаем здароўя, радасці. *Сям'я Баршчукоў.*

Віншую з 18-годдзем **Лену Сушко**! От всей души желаю я: любви до неба голубого и счастья полного до дна. *Сяброўка Каця.*

**Лене Касяк** з в. Людвінова. Дачушка дарагая, з днём нараджэння! Здароўя, шчасця і ўсіх зямных даброт табе! *Мама.*

**Галінка**! З днём нараджэння! Будь белой завистью для женщин и будь всегда желанной для мужчин! *Цалую. Я.*

Віншуем **Кацю Вансовіч** з Маладзечна з паступленнем у Барысаўскі педагагічны каледж! Поспехаў табе ў вучобе! *Палянскія, Вілейка.*



# ЗНАЁМСТВЫ

Слабахарактарны, але высокі, сімпатычны мужчына з жыллём, 38 год, пазнаёміцца з жанчынай. 220100, Мінск-100, а/с 351.

40/157/67, разведзеная, с/тэхн/адукацыя, з жыллём, пазнаёміцца з самастойным мужчынам для сумеснага жыцця. Маладзечна-7, п/п МС0448578.

Пазнаёмлюся з адзінокай жанчынай ад 55-60 год, з кватэрай незалежнай. Пра сябе: адзінокі пенсіянер, забяспечаны, 62/177/80.

Пазнаёмлюся з удаўцом 55-57 год. Мне 54 гады, рост 160. 222310, Маладзечна-4, п/п МС0230175.

Пазнаёмлюся з самастойным мужчынам для стварэння сям'і. Пра сябе: сімпатычная, 33/168/58, в/а, без шк/зв. і жыллёвых праблем. Маладзечна-6, МС0651415.

Мужчына 50/170/73 пазнаёміцца з жанчынай для стварэння сям'і. Жыллём забяспечаны. Маладзечна-6, МС 0367626.

**Звярніце ўвагу**

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

**Купон** **35**

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».
Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.
Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

тэкст

Рэгіянальная газета

прозвішча, імя, адрас (не для друку)

■ ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

## Пра квадратныя ступеньчатыя падшыпнікі



Расказаў аднакласнік, падпалкоўнік запасу. Спадзяюся, гісторыя адбылася не з ім. Некаторыя прыкметы (у прыватнасці, папахі, здаецца, толькі палкоўнікі і вышэй маюць права насіць) сведчаць на карысць майго аднакласніка.

Такім чынам, зіма, вайсковая часць. Камандзір палка – святой душы чалавек, хаця і палкоўнік – пытаецца ў афіцэраў:

– Мужыкі, што вы ведаеце пра квадратныя падшыпнікі?

Цішыня. Запытальныя позіркі на камандзіра.

– Вось учора ваш строгі камандзір унука забіраў з «падоўжанкі». Спускаемся на эскалатары ў метро, ён мяне і пытаецца: «Дзеда, а што ты ведаеш пра ступеньчатыя квадратныя падшыпнікі?» Нічога, кажу, не чуў. Адкуль інфармацыя? «Ды нам сёння хлопцы прыносілі, паказвалі. Тэхналогія – во! – паказвае вялікі палец. – Ды ты і сам можаш паглядзець, проста нязручна глядзець, калі не ў руках разабраны трымаць. Вось адагні парэнчу і зірні, чаму яна па вуглом ідзе». Ну, вы ж ведаеце гэтае метро? Два пралёты, вузкая адлегласць між эскалатарамі. Ну, вось адцягвае ён парэнчу і гаворыць: «Зірні». Ну, я, стары дурань, галаву выцягнуў, зазірнуў. Тут ліхтар, што паўз нас пралятае, мяне па вядры – «БУМ!!». І гэтая папаха паехала ўніз, грукаючыся аб ліхтары. А мне малы кажа: «Вось так сёння і мяне падкалолі».

**Сямён РАБІНОВІЧ.**

■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

## «Арыгінальна!»

Знаёмы расказаў гісторыю, якая цяпер ужо з'яўляецца анекдотам. Але тады гэта здарылася з ім на самой справе.

Здавала яго група экзамен, ужо зайшла першая пяцёрка. Астатнія дзяжураць каля дзвярэй на калідоры, хвалююцца. Тут да знаёмага падыходзіць сябар (разам жылі ў інтэрнаце) і бярэ ягоную залікоўку паглядзець.

– О, дык ты добра вучышся! Чацвёркі, – і вырашыў пажартаваць: зашпульнуў залікоўку пад дзверы кабінета, дзе ішоў экзамен. Дакумент добра "знайшоў" шлях і праз шчыліну знізу заляцеў якраз да ног выкладчыка. Той падняў яго, паглядзеў на адзнакі, заўсміхаўся і са словамі "арыгінальна" паставіў чацвёрку, адправіў "пошту" назад, на калідор.

Усе наступныя залікоўкі, якія адразу ж "паляцелі" пад дзверы, былі адзначаныя як ужо "не арыгінальна", і складаліся на вугал стала, чакаючы сваіх гаспадароў.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

## Папа рымскі прыехаў у Маладзечна

**МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак у горад прыехала калекцыя з пецярбургскага музея васковых фігур. Прытым, упершыню ў Беларусі.**



Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.

**Васкова-пецярбургская Мадона ў Маладзечне.**

Таму, што расіяне прыехалі менавіта ў Маладзечна, ёсць дзве прычыны. Па-першае, ехалі яны з Палангі (яна стала апошнім пунктам паўгадовага "турнэ" па Літве). А па-другое, адзін з членаў Савета дырэктараў акцыянернага таварыства, якое валодае музеем, родам з Маладзечна.

Піцерцы прывезлі больш за два дзесяткі фігур. Яны размеркаваныя па тэматычных стэндах: палітыкі, музыканты, акцёры. Хаця ёсць выявы папы рымскага Іаана Паўла II, прынцэсы Дыяны.

Некаторымі падрабязнасцямі падзяліўся старшы менеджэр Сяргей Шумаеў:

– Наш музей у Расіі адзіны. Нейкі час падобны хацелі стварыць у Маскве. Але нешта не атрымалася.

Тэхналогіі вырабу васковых фігур у СССР узнавілі ў 1988 годзе. З таго часу і вядзе гісторыю наш музей. Цяпер калекцыя складае больш за 500 персанажаў. Саміх фігур болей. Адных Ленінаў ездзіць па Расіі некалькі дзесяткаў.

Фігуры робяць не менш як месяц. Сабекошт – ад 1 да 25 тысяч долараў. Валасы, зазначу, у фігур натуральныя, а не парыкі. Кожны трэба "садзіць" паасобку. З воску робяць толькі бачымыя часткі цела. Астатняе – пластык.

Мяркуецца, што піцерская калекцыя васковых фігур будзе ў Маладзечне да 27 кастрычніка.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно

**ПРАВІЛЬНЫ АДКАЗ** на мінулае пытанне далі **Юрый Мінец і Іосіф Каросцік** – бутэлькі Морзе выкарыстоўваў для ізаляцыі правадоў на слупах. Запрашаю абодвух па білеты ў кіно.

**НАСТУПНАЕ ЗАДАННЕ.** Яно няскладанае. Дзе знаходзіцца Новая Зеландыя, ведаюць, мусіць, усе. Нават двоечнікі змогуць – з падказкай ці без – паказаць яе на карце. А вось дзе знаходзіцца «проста» Зеландыя?

Ёсць такая правінцыя ў Нідэрландах. Ёсць і востраў у Даніі. Тэлефануйце 69667 у Маладзечне (па сераду ўключна) і прыходзьце па запрашальны білет на 2 асобы на прагляд фільма ў маладзечанскім кінатэатры «Радзіма».

**Лявон ІНЕТНЫ.**

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Пікантныя слівы



**10 кг крыху недаспелых цвёрдых сліў, 2,5 л яблычнага воцату, 2,5 кг цукру, гваздзіка, карыца на смак.**

Слівы памыць, абсушыць, накалоць вострай палачкай і ўкласці ў прасторны слоік. У 7,5 л кіпню дадаем воцат, прыправы, даём пракіпець і адразу заліваем слівы. На наступны дзень марынад зліваем, кіпяцім яго ў закрытым посудзе 4-5 хвілін і зноў заліваем слівы. І так 4–5 разоў. Пасля апошняй заліўкі слівы ахалоджваем, слоікі накрываем пергаментнай паперай, абвязваем і ставім у холад.

Пікантныя слівы падаюць да многіх мясных страў, упрыгожваюць імі салаты.

## Паштэт з фасолі

**2 шклянкі фасолі, 3 цыбуліны, 400 г свежых грыбоў, 3–4 зубкі часнаку, 3 лыжкі надзертага сыру, 1 шклянка смятаны, 3 яйкі, 1/2 шклянкі алею, соль і перац на смак.**

Дробна парэзаныя цыбулю і грыбы крыху абсмажваем на асобных патэльнях. Затым перакладваем усё на адну і смажым, пакуль не знікне вільгасць, прыпраўляем надзертым на тарцы часнаком, зваранай да мяккасці і прапушчанай праз мясарубку фасоляй, смятанай і паловай порцыі сыру. Цяпер масу можна пасаліць і паперчыць па смаку. Паштэт узбіваем, надаем яму форму, пасыпаем астатнім сырам і ахалоджваем.

Можна паштэт і запячы ў духоўцы. У гэтым выпадку трэба дадаць у масу сырое яйка.

■ ПРОСТА АНЕКДОТ



Адзін коміваяжор вяртаецца з камандзіроўкі і з болем ды жахам чуе, як адзін з двух ягоных папугаяў паўтарае салодкім голасам:

– Абдымі мяне, даражэнькі, абдымі.

У прыступе рэўнасці комівояжор задае сваёй жонцы, а на наступны дзень ад'язджае па справах. Калі вяртаецца, не бачыць на месцы папугая-«ябеду». На пытанне, дзе ён, жонка адказвае, што, напэўна, згарэў ад кахання. Тады комівояжор пытаецца ў другога папугая, што застаўся ў клетцы:

– Скажы мне, што адбылося?

– Я буду гаварыць, – адказвае папугай. – Аднак толькі ўдалечыні ад печкі і ў прысутнасці майго адваката.

## Без каментарыяў

● **Нацыянальны банк прыступіў да рэалізацыі багатым беларусам, якім ужо няма куды ўкладаць лішнія грошы, залатыя злiткі пробы 999,9 наміналам ад 1 да 1000 грамаў.** У перспектыве жадаючыя могуць звяртацца ў аддзяленне Нацбанка ў Маладзечне, пакуль жа яны рэалізуюцца толькі ў Мінску. Па задуме аўтараў праекта, яны могуць выкарыстоўвацца з мэтай назапашвання золата ў якасці скарбаў, калекцыянавання і цудоўнага падарунка, сувеніра.

● **Сярэдняя налічаная заработная плата рабочых і служачых па краіне за ліпень 2001 года склала амаль 145 тысяч рублёў, што ў эквіваленце па курсе Нацыянальнага банка роўна 100 долараў.** Чыстыя ж даходы пасля ўплаты падаткаў і па рэальным курсе продажу дадуць пакуль толькі 84 долары.

● **З той прычыны, што яшчэ не ўбраная адна чацвертая пасяўных плошчаў, свята ўраджаю "Дажынкі-2001" пераносіцца на месяц.** Галоўныя ўрачыстасці на гэты раз павінны былі адбыцца ў Мазыры.

● **Для 6 беларускіх турыстаў, якія адпачывалі на балгарскім курорце Балчык, водпуск скончыўся датэрмінова.** Злодзеі ўкралі з гатэля сейф, дзе знаходзіліся дакументы і грошы (усяго 3,5 тысячы долараў) 54 турыстаў, у асноўным, з Расіі і Беларусі. Пры садзеянні нашага пасольства беларусы, што адпачывалі ў гэтым гатэлі, былі адпраўленыя дадому.

● **На жаль, смяротнасць у нашай краіне ў 1,5 раза перавышае нараджальнасць.** Аднак і клапаціцца пра нованароджаных мы асабліва не ўмеем. Каля 18% агульнай колькасці нованароджаных – пазашлюбныя дзеці, 12% усіх цяжарнасцяў прыходзіцца на непаўналетніх. За мінулы год яшчэ ў радзільным доме ад нованароджаных адмовілася 735 мам.

● **На перамовах германскага і польскага кіраўнікоў рашаліся некаторыя пытанні, якія могуць узнікнуць пасля магчымага далучэння Польшчы і Чэхіі да Еўрасаюза з 2004 года.** Германія настойвае на 7-гадовым пераходным перыядзе, на працягу якога не будзе дапускацца свабодная міграцыя з усходніх краін рабочай сілы, што знізіць цану на рынку працы і павялічыць узровень беспрацоўя, які ва Усходняй Германіі і так у два разы вышэйшы, чым на Захадзе. Польшча да гэтай ідэі ставіцца адмоўна, але, у сваю чаргу, настойвае на пераходным перыядзе, на працягу якога грамадзяне іншых краін ЕС не змогуць набываць у Польшчы зямельныя ўчасткі.

● **За ліпень 2001 года цэны на тавары і паслугі павялічыліся на 1,6%.**

● **За наўмыснае пашкоджанне дзяржаўнай маёмасці, якое вылілася ў напісанні 8 надпісаў "Зубр" на будынку райвыканкома Партызанскага раёна Мінска,** двое падпісантаў судом прыгавораныя да штрафаў у памеры 750 тысяч рублёў (каля 530 долараў) і кампенсацыі ўрону ў памеры 400 долараў.

● **Член СНД Малдова будзе пускаць у рэспубліку іншаземных грамадзян пры наяўнасці пашпарта, білета назад і мінімальнай сумы грошай для забеспячэння свайго прабывання.** Каб атрымаць асалоду ад смаку малдаўскіх вінаў, неабходна мець суму з разліку 30 долараў на кожны дзень прабывання.

● **У польскім горадзе Шчэцін рашылі па-свойму змагацца з гангстэрамі і дробнымі злодзеямі.** Нядаўна паліцыя знайшла голага маладога чалавека з вялізным надпісам на спіне "Я злодзей", які ляжаў пасярод плошчы. Такім чынам гандляры, якія пакутавалі ад злодзеяў, разабраліся з крыўдзіцелем.

**Падрыхтаваў Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

